Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 17 Чацьвер, 28 Жніўня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць [illegible]зень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная [illegible] ...оты 20 гр. За [illegible] ...ня даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.



## Крыху спозьненае прызнаньне.

Польская нацыянальная дэмакратыя (эндэкі) заўсёды дасюль мала зьвяртала ўвагі на беларускую проблему наагул і, тым болей, мала цікавілася беларускім пытаньнем у Польскай Рэспубліцы. Яшчэ вельмі нядаўна, бо ўсяго толькі гадоў чатыры назад, калі польскае войска ў вайне з бальшавікамі дайшло аж да Беразіны, ў польскай правіцовай прэсе мы спатыкалі трактаваньне беларускага нацыянальнага руху ось так сабе, як аднаго з рэвалюцыйных капрызаў...

Беларуская культура польскаю правіцаю не прызнавалася, а мова наша лічылася ёю за нейкую нібыто папсованую расейскую, або польскую.

Маленечкі кавалак часу прайшоў і палажэньне робіцца іншым. Пачынаюць далятаць першыя гукі іншага пагляду на нас з боку тых, хто, здавалася, ніколі не прадзярэ вачэй, каб проста глянуць на рэчы.

Бо чым-жа, як ня крыху спозьненым прызнаньнем нашага права на разьвіцьцё свае мовы, а з гэтым пэўна-ж і ўсяе нашае культуры зьяўляецца артыкул п. Grzegorza Piotrowskiego ў толькі што дайшоўшым да нас № 232 за 24 гэтага ліпня аднае з найбольшых правіцовых польскіх газэт („Gazeta Warszawska")?

Паважаны аўтор, назваўшы свой артыкул проста „W sprawie białoruskiej mowy", гэтак разважае над зацікавіўшым яго пытаньнем:

„Расейскія філёлёгі цьвярдзяць, што беларуская мова зьяўляецца народнаю гаворкаю—gwarą ludową—(наречием—*Рэд.*), ня маючаю азнакаў асаблівасьцяў, неабходных дзеля выпрацаваньня самастойнае мовы. Падвышэньне культурнага роўня насяленьня фатальна цягне за сабою заняпад гаворкі, альбо замяшчэньне яе моваю расейскаю.

Відочна тае самае думкі трымаюцца й тыя вураднікі Польскае Рэспублікі на крэсах беларускіх, якія ў выпадках, калі польскае мовы не хапае, ўцякаюць хутчэй да расейскае мовы, чымся да „гаворкі". Робяць гэтым уражаньне на масах насяленьня ня толькі беларускага, але і чыста-польскага, адвеку жывучага на крэсах, што польская адміністрацыя мала чым розьніцца ад расейскае адміністрацыі старога рэжыму. Гэта дае повад бальшавіцкім агітатарам цьвярдзіць, што Палякі знаходзяцца ў саюзе з расейскай рэакцыяй і што „Савецкая Беларуская Рэспубліка" зьяўляецца ласьне тым Эльдорадо, да якога польскія Беларусы павінны імкнуцца etc.

Калі-б навет, згодна з тэорыяй расейскіх філёлёгаў, Беларусы фактычна былі прызначаны на эвэнтуальнае зрусыфікаваньне; дык ці ляжыць гэта на лініі інтарэсаў польскіх, каб прысьпяшаць гэты процэс? Гэта адна справа.

Другая справа — ці расейскія філёлёгі не памыляюцца? Ці „гаворка" сапраўды мела-б быць тэю фазаю разьвіцьця мовы, якая фатальна выключае далейшыя фазы?

Прыклады гэтаму пярэчаць. Хто-ж гадоў з пяцьдзесят назад яшчэ думаў аб ужываньні „неіснаваўшае" ў той час фінскае мовы ў прэсе, адміністрацыі, парлямэнце, унівэрсытэце?—бо кожны-ж хоць-бы элемэнтарна цывілізованы чалавек у Фінляндыі гаварыў і думаў пашвэдзку?

То-ж яшчэ ў нашыя часы, як гаворка, была трактована нарвэская мова і навет сягоньня яшчэ старшае пакаленьне нарвэжцаў лічыць за лепшае чытаць свайго Ібсэна падацку.

Ангельская й гішпанская мовы — сягоньня зьяўляюцца найбольш распаўсюджанымі мовамі на зямной кулі. Ці гэтак ёсьць з прычыны якіх-нібудзь спэцыяльных іхніх лінгвістычных вартасьцяў у параўнаньні, напрыклад, з мовамі францускаю, ці нямецкаю, якія займаюць трэцяе і чацьвёртае пасьля іх месца?

На аснове граматычных і лексіконічных вартасьцяў данага нарэчча нельга рашаць аб яго будучыне. У гэтай плашчыні трэба орыентавацца ў справе беларускае мовы.

Палітычна-грамадзкія коньюнктуры сягоньня на цэлым сьвеце ў нябывалай дасюль ступені спрыяюць усялякім языковым наватворам. Не дзесяткі, а сотні новых моваў паўстаюць у цяперашні момэнт у Эўропе, Азіі і Афрыцы. У самой Англіі ўваскрасаюць аж 3, даўно пахованыя мовы: ірляндзкая, шкоцкая й валійская. У паўднёвай Францыі—на лініі Біарыц-Марсэль — у чугуначных кіосках можна набываць газэты штораз то на іншай лёкальнай (*мясцовай*) мове, якія гэтак адносяцца да францускае, як, напрыклад, літоўская да польскае.

Лятуценьні, быццам нейкая адна мова праглыне ўсе іншыя і зробіцца унівэрсальнаю — пачынаюць здавацца ўсё больш і больш далёкімі ад рэальнасьці. На перашкодзе становіцца ня толькі слоўнік, але й вымова. Калі-б разам усе народы пачалі гаварыць лацінаю — дык усё-ж такі не маглі-б паразумецца з прычыны вельмі разьбежнага вымаўляньня тых самых літараў і слоў. Разрозьненасьць вымовы адбываецца сёньня шпарчэй, як даўней, па меры прысьпяшэньня тэмпу жыцьця і разрозьніваньня варункаў жыцьця. І гэта даецца заўважыць у месцах вялікіх зборышчаў ды культуры. Лёндански „kokney" як-бы й не зьяўляецца адзіным нарэччам гэтага гораду. Таксама малады Нью-Іорк мае свой уласны „slang".

Міжнародныя лёзунгі выклікаюць рэакцыю ў постаці штораз то болей інтэнсыўнае ўнутранае самаарганізацыі паасобных нацыянальнасьцяў. Інтэрнацыяналы ў высокай ступені падтрымліваюць „малыя" нацыяналізмы. Ёсьць у гэтым тактыка паменшаваньня „вялікіх", а значыць „небясьпечных" нацыяналізмаў цераз адрываньне ад іх „малых", а значыцца слабых нацыяналізмаў. Адсюль характарны сучасны фэномэн — чырвоны нацыяналізм. Інтэрнацыяналізм ад'жыўляецца ў гэтым выпадку нацыяналізмам, робячы з яго свой інструмэнт. Пад знакам чырвонага нацыяналізму ёсьць сягоньня шмат якія нацыянальнасьці Савецкае Расеі. Самаадрываньне малых нацыяналізмаў ад большых на руку некаторым дзяржавам. У першай лініі Англіі й Амэрыцы. Свой імпэрыялізм гэтыя дзяржавы будуюць на тэй самай аснове, што й Рым Цэзараў—на формальнай міжнароднай справядлівасьці... Diwide et impera (дзялі і пануй!) — у перакладзе на сёньняшнія катэгорыі значыць: ствалай ўсё болей новыя групіроўкі, хай сабе ўзаемна цажруцца! І ў даслоўным значэньні якраз гэтак і робіцца ў не аднэй з брытанскіх провінцыяў.

Нашчасьце для Беларусаў, ня жывуць яны ў індускай джунглі ды таксама ня ўсе належаць да Совцэпіі, дзе падтрымліваньне мясцовых нацыяналізмаў зьяўляецца толькі тактыкаю. Тактыка — рэч зьменная. У краі Саветаў даказвае гэта лёс НЭП'у. Нашчасьце для Беларусаў, для іхняе будучае культуры і мовы, маюць яны апору аб Польшчу, край з традыцыйна лібэральнаю нацыянальнаю палітыкаю, з вынятковаю ў гісторыі сьвету толеранцыяй, з вельмі хуткаю няраз уступчывасьцяй перад усімі культурнымі пачынаньнямі, хаця-бы ў прынцыпе і конкурэнцыйнымі. Гэты польскі лібэралізм зьяўляецца нашым слабым бокам. Ён фактычна робіць нам немагчымым усялякае наступленьне. Аднак-жа, разам з тым, зьяўляецца і нашай сілаю: ён запальвае нас да абароны нашых рацыянальных правоў, стварае неперабытую крэпасьць нашага рацыяналізму, нашага гістарычнага сэнсу быцьця. У кожным выпадку, ён зьяўляецца акалічнасьцю, якая нязьмерна палягчае прыязнае з намі сужыцьцё.

Няхай Ластоўскі арганізуе сабе „беларускія" палкі ў Коўне, хай уцякае Сіміч (?) у „Менск"— гісторыя пакажа, што паколькі сапраўды паўстане асобная беларуская культура і асобны язык, дык зробіцца гэта, дзякуючы працы тых Беларусаў, якія зразумелі і ацанілі вартасьць апякунчых крыльляў Белага Арла".

Вось альфа і омэга таго, што меў паважаны супрацоўнік нацыяналістычнае „Gazety Warszawskiej" сказаць па пытаньню аб беларускай мове. Для яго яшчэ няясна сёньня паўстане, ці не паўстане *„асобная беларуская культура і асобная беларуская мова"?* Для яго яшчэ надта аўторытэтны расейска-царскія філёлёгі, над цьвярджэньнямі якіх жыцьцё даўно ўжо перайшло да парадку дня.

А мы ведаем і верым, што наша культура *паўстала* да жыцьця, а мова ніколі а ні на момэнт ня зьнікала ў народзе. Што мова нашая, (праўда славянская), *асобная* мова, як ад расейскае, так і ад польскае, і тут нічога ніякія філёлёгі зьмяніць ня могуць.

А найважней за ўсё тое, што на шпальтах гэткага нацыяналістычнага органу, як „Gazeta Warszawska", хоць і ня сьмела, прызнаецца за намі магчымасьць лепшай будучыны.

Хто сказаў *А*, — той змушаны будзе бегам гісторыі сказаць і *Б* па тэтым пытаньні. І толькі тады, калі ўзаемна два братнія славянскія народы дайдуць да разуменьня ўсяе абэцэды закранутага пытаньня, апраўдаюцца ўсе вывады загаварыўшага аб нас польскага нацыяналіста.

# Палітычны агляд.

Як раней усе азіраліся на Лёндан, так у сучасны мамэнт на Парыж Бэрлін і Жэнэву. На Парыж і Бэрлін дзеля таго, што ад пастановы француское і бэрлінскае палаты залежыць лёс Лёнданскага паразуменьня, а на Жэнэву дзеля таго, што там 29 жніўня адбудзецца 30-тае чарговае пасеџаньне Лігі Народаў і 5-тае агульнае сабраньне Лігі Народаў супольна з прадстаўнікамі — лідэрамі усіх саюзных гаспадарстваў, на якім мае быць разгледжана пытаньне межаў Францыі і наогул абарона і захаваньне спакою ў Эўропе. Такім чынам, у Жэнэве будуць разглядацца тыя пытаньні, якія зьяўляюцца дадаткавымі да Лёнданскага дагавору і ня былі разгледжаны на Лёнданскай конфэрэнцыі, ня гледзячы на жаданьне Францыі. Але гэтыя пытаньні, тады толькі будуць абгаварывацца у Жэнэве калі Лёнданская ўмова будзе ўжо падпісана ўсімі сябрамі Лёнданскае конфэрэнцыі, дзеля чаго і даны час да 30 жніўня; паразуменьне Лёнданскае зьяўляецца тым пунктам, ад якога залежыць ідэя агульнага міру і разэбраеньня, ідэя, у якой ня ўсе яшчэ праканаліся.

На Лёнданскую конфэрэнцыю, якраз робіць вялікі ўплыў; Макдональд, Эрыо, Тэніс, Юз, Маркс і Штрэзэман, якіх нельга лічыць ворагамі агульнага міру. Усе гэтыя асобы зьяўляюцца прадстаўнікамі тых слаёў насяленьня, якія гатовы разглядаць усе пытаньні пры помачы трацейскага суда. Дзякуючы гэтаму было дасягнена паразуменьне паміж саюзьнікамі і немцамі, якога ніяк не маглі дасягнуць ад часу падпісаньня міравога трактату ў 1919 г. Але ня гледзячы на тое, што мірна настроенаму дэмакратычнаму элемэнту ўдалося адтрымаць перавагу ў Лёндане, яе яшчэ патрэбна і ўмацаваць у Жэнэве, бо ўва ўсіх яшчэ гаспадарствах есьць нацыяналістычныя, трагічныя асобы якія няздольны на компромісы, без чаго зьяўляецца немагчымым умацаваньне агульнага міру. Ось з гэтакімі элемэнтамі ў сучасны мамэнт і прыходзіцца мець справу — Эрыо у Парыжы, а Марксу ў Бэрліне. Ад гэтых элемэнтаў цяпер і залежыць, як лёс Лёнданскага паразуменьня, перагавораў у Жэнэве так і наогул лёс эўропэйскага міру.

Што тычыцца камуністаў француских, нямецкіх і расейскіх, дык усе яны зьяўляюцца ворагамі Лёнданскага паразуменьня і працуюць па ўказцы з Масквы, стараючыся якнайхутчэй нарушыць эўропэйскі мір.

Але і нацыяналісты, як француския, так і нямецкія ідуць проці Лёнданскага паразуменьня і, такім чынам, ідуць разам з камуністамі да аднэй мэты.

Французскія нацыяналісты на чале з Пуанкарэ і Дюбуа вінавацяць Эрыо ў тым, што ён пайшоў у Лёндане на компроміс і згадзіўся на эвакуацыю Руры хаця-ж і праз год. Нямецкія-ж нацыяналісты таксама вінавацяць сваю дыплёматыю, што яна пайшла на конфэрэнцыі на компромісы і не патрэбавала незабаўнага зьняцьця окупацыі Рурскага басэйну. Як адны, так і другія адмаўляюць у вотуме даверыя сваім урадам і галасуюць проці падпісаньня Лёнданскага паразуменьня.

Францускі прэм'ер Эрыо знаходзіцца ў лепшым палажэньні, чымся яго кампан у Бэрліне, бо мае за сабой большасьць палаты, якая прызнала патрэбным падпісаньне Лёнданскага паразуменьня. У горшым палажэньні апыніўся нямецкі кабінэт Маркса, бо для прыняцьця пляну Давіса і Лёнданскага паразуменьня ў нямецкім рэйхстагу няма большасьці, бо падтрымаўньня яго нацыяналістамі і камуністамі, якія катэгорычна заявілі, што будуць галасаваць проці.

Паўстае пытаньне, які-ж выхад нямецкага ўраду з гэтакага палажэньня, які хоча ўвясьці ў жыцьцё Лёнданскае паразуменьне? Па законах нямецкае констытуцыі прэзыдэнт рэспублікі мае права ўпаважніць прадстаўнікоў падпісаць Лёнданскае паразуменьне з тым, што яно пасьля будзе дана на зацьверджаньне Рэйхстагу. Гэтак мусіць нямецкі ўрад і зрабіць, а тымчасам распусьціць парлямэнт і абвесьціць аб новых выбарах, якія могуць зьмяніць групіроўку палітычных партыяў у парлямэнце ці ў лепшы, ці ў горшы бок для нямецкіх нацыяналістаў і камуністаў, а таксама і для ўраду.

І. С.

# Палітычная хроніка.

**У Польшчы.**

— „Przegl. Wiecz." паведамляе, што гэтымі днямі загадаваць акраінными справамі ў Міністэрстве Унутраных Справаў будзе даручана п. Вал. Роману, цяперашн. Дэлегату Ураду ў Вільні.

— На паседжаньні палітычнага камітэту Рады Міністраў у Спале 22. VIII. прыняты рад ваенных распараджэньняў аб забясьпечаньні ўсходняе раніцы ад нападу бандытаў. Будзе арганізованы спэцыяльны корпус пагранічнае варты.

— „Echo Warsz." паведамляе аб хуткім прыезьдзе ў Варшаву савецкае гандлёвае дэлегацыі, якая павінна зрабіць у Польшчы вялікія заказы валакністых, хімічных і горных тавараў. Тавары будуць даны напавер пад гарантыю заходняэўропэйскага капіталу.

— На час адсутнасьці Міністра Заграніч. справаў п. Скржынскага, выехаўшага ў Парыж, міністэрствам будзе кіраваць прэм'ер Ул. Грабскі пры намесьніцтве Д-ра Бартоні.

— 2-га верасьня ў конфэрэнцыйнай залі Міністэрства Скарбу адбудзецца нарада па пытаньню аб увозе і вывазе земляробскіх прадуктаў.

— Міністар Вайсковых справаў гэнэрал Сікорскі зьвярнуўся з пісьмом да прэм'ера Грабскага аб паляпшэньні быту афіцэраў і пад'афіцэраў.

— „Prz. Wiecz." паведамляе, што на паседжаньні Рады Міністраў 26. VIII з мэтай адзаралуленьня адносін на ўсходніх крэсах, пастаноўлена зрабіць гэткія пэрсональныя зьмены: Навагрэдзкім ваяводаю будзе назначаны гэн. Янушайціс і Валынскім ваяводаю—гэн. Альшэўскі, цяперашні Наваградзкі ваявода п. Рачкевіч займе пасаду Віленскага дэлегата замест п. Романа, які займе пасаду другога віцэ-міністра ўнутраных справаў па акраінных пытаньнях.

— „Kur. Pol." перадае аб конфэрэнцыі прэм'ер-міністра Грабскага з міністрам унутраных справаў Гюбнэрам аб распараджэньнях, неабходных дзеля забясьпечаньня спакою ўва ўсходняй пагранічнай паласе. Істнуе проект абвешчаньня выняткoвага палажэньня. Справа будзе разважацца ў Радзе Міністраў.

— У мінулы панядзелак прэм'ер Грабскі пастанавіў, з прычыны росту дарагоўлі, спыніць вываз жыта за граніцу і адкрыць крэдыты для утрыманьня цэнаў на хлеб на ранейшай вышыні. Трэба лічыцца з тым, што слабы ўраджай адаб'ецца на дарагоўлі.

**За граніцай.**

— Поўафіцыёзная **ангельская** прэса піша, нібыто консэрватары ўжо рыхтуюцца да новых выбараў у парлямэнт, роспуску якога чакаюць у сувязі з дэбатамі па ірляндскім пытаньні і па англа-савецкім паразуменьні.

— **Францускі** парлямэнт большасьцю 336 галасоў проці 204 выказаў даверые ўраду Эрыо па справе лёнданскага паразуменьня.

— Украінскі ЦИК выдзяліў з адэскае і екацерынаслаўскае губ. і Данецкага басэйну раёны з пераважаючым нямецкім насяленьнем. У іх будуць установлены нацыянальныя адміністрацыйныя і школьныя органы. Тое самае будзе зроблена на Валыні, дзе пераважае польскае насяленьне.

# Тыпы Палесься

*(Глядзі № 16 „Грам. Голасу").*

Па дарозе мы бачылі шмат цецярукоў, але не стралялі, бо меркавалі, што калі будзем вяртацца, дык спарней будзе прынясьці птушкі да хаты, чым цяпер цягацца з імі. Некалькі разоў сядалі мы адпачываць, але ня было яшчэ ніякай прыметы аб блізкасьці вады.

Але, ось, праз вярсты дзьве пацягнула з пераду халадком, і хутка мы апыніліся сярод густое травы, а праз шагоў 300 праз дрэвы заблішчэлі хвалі возера.

— Вось і возера!—сказаў Міхась, першы выходзячы з лесу...

Колькі хапала вока была вада, і другі бераг віднеўся, як-бы пакрыты туманам.

— Дых вось яно возера Князь, пра якое я чуў шмат легендаў. Ось яно! Ува ўсім сваім харастве перада мнай!

Шмат корміць яно нашых братоў, шмат карысьці мае з яго селянін...

На берагох яго то там, то сям стаяць вёскі.

Бягуць хвалі адна за адною. Стройна стаіць сітняг, далёка займаючы ваду. Па ім таксама ходзяць хвалі, але не жалезнага колеру, а зялёныя, да якіх цягне, і, здаецца, сярод іх знайшоў-бы адпачынак ад усіх трудоў чалавек...

Доўга глядзеў я на халодныя хвалі, і ня мог наглядзецца...

— А каб ты ведаў, якое хараство глядзець на яго, калі ў небе гараць зоркі, сьвеце месяц, якое тады хараство, — казаў Міхась. — Ось, пабачыш сам...

А, пакуль што, мары ў бок,—дадаў ён,— давай лавіць рыбу будзем, цяпер павінна добра брацца.

— Лавіць рыбу?— зьдзівіўся я.— А чым?

— Чым?—перапытаў сьмяючыся Міхась.

— Вудою, браток, будзем лавіць...

І, не чакаючы мяне, ён схаваўся ў кустох і праз мінюту прынёс зьнекуль дзьве, добра наладжаныя, вуды.

— Ну, ось, маеш, — сказаў ён, даючы мне адну вуду.— Будзем лавіць на хлеб...

Я выбраў сабе добрае месца сярод кустоў, што расьлі над самай вадой, і пачаў прабаваць шчасьце. Але ці я ня ўмеў лавіць, ці проста глядзеў на плывук, ня думаючы аб рыбе, а толькі ўжо сонца зайшло, калі мяне паклікаў Міхась:

— Дзяргач, хадзі!

Я выйшаў з свайго куста і ўгледзеў Міхася з нейкаю дзяўчынаю.

Падайшоўшы бліжэй, я пазнаў ў дзеўчыне Ганку.

— Вы прыйшлі адны? — зьдзівіўся я, — і не баяліся?

Чаго-ж баяцца?—спакойна адказала яна.

— Я дарогу ведаю добра... Ну, дзе-ж ваша рыба? — запытала яна.

— Ось, усяго тры плоткі,—паказаў я тры рыбкі—па фунту вагай...

— Э, дрэнны з цябе лоўчы, — памахаў галавою Міхась, — ось, на, паглядзі, колькі іх нацягаў, — і ён паказаў цэлую нізаўку рыбы.

— Ну, добра, — сьмяючыся казаў ён далей, — калі шанцуе, дык і Халімон танцуе, а цяпер давайце іх чысьціць, дый зварым іх...

Мы ўсе дружна прыняліся за працу. Праз мінют 15 рыба была абчышчана і ляжала ў саганчыку, а пад ім весела гарэў агонь.

— Добрая будзе ночка, — казаў Міхась пазіраючы на неба...

— Ось маеце, рыба гатова, — сказала Ганка, здымаючы з кійка саганчык.

Усе дружна прыняліся за яду.

— Ну, ось і добра пад'елі, цяпер будзем пазіраць на дзела Божае, як кажа мой бацька.

Мы падайшлі бліжэй да вады і пачалі глядзець на возера.

Борзда цямнела неба. Ужо ня было відаць другога берагу. Адна за адною загараліся зоркі на небе, і з правага боку адсьвечваліся ў вадзе, то гінулі ад набягаўшай хвалі, то зноў зьяўляліся.

Усе ўтрох сядзелі моўчкі. Кожны меў свае мары, свае думкі...

Ось, ось, бачу я, як устаюць са дна возера сівыя дзяды з мечамі ў руках, выходзяць з хваляў адзін за адным на бераг... Зьяе штандар над імі, і голас я чую... «Сябры! Пэўна трэба нам зноў самым брацца за дзела, ня хочуць нашы праўнукі бараніць сваю волю, сваю старонку, пэўна трэба нам зноў сваею рукою падняць меч за волю старонкі роднай! Трэба нам пайсьці па вёсках, разбудзіць праўнукаў сваіх! Дакуль яны будуць жыць пад зьдзекам маскоўскім, пад чужацкай навалай!...

То ветрык шапаціць сітнягом, хвалі туману бягуць над вадой, то месячык прыгожы ўзыйшоў на неба пагуляць, а мне здаецца, што чую я голас загінуўшых дзядоў за нашу старонку, за волю і лепшую долю...

— У **Італії** фашысты ідуць на компроміс з лібэраламі. Мусоліні ўжо вёў перагаворы з лідэрамі апошніх.

— Нацыяналістычная фракцыя **нямецкага** парлямэнту дала сваім сябром поўную свабоду галасаваньня над законамі аб правядзеньні ў жыцьцё пляну Давіса.

— З прычыны заўсёдных бандыцкіх нападаў на граніцы **Сырыі** і Заіарданьня францускія і ангельскія ўлады вядуць супольную і ўдачную опэрацыю для ліквідацыі бандытызму.

— **Румынскія** ваенныя ўлады распарадзіліся, каб пагранічныя ваенныя караблі працавалі супольна з баўгарскімі караблямі пры патруляваньні берагоў Чорнага мора. Распараджэньне гэтае выклікана перавозкаю зброі і амуніцыі, якая высылаецца бальшавікамі баўгарскім і румынскім камуністам.

— „Neues Ar. Zt.“ перадае з Парыжа, што прэзэсам сэсіі **Лігі Народаў** будзе начальнік палітычнага аддзелу швэйцарскага ўраду Мэтта.

— „Echo de Paris” перадае аб росьце ваяўнічасьці **ў Нямеччыне.** Немцы стараюцца зацягнуць пытаньне аб ваенным кантроле і ўтаіць азбройваньне перад камісіяй. Усе часьцей адбываюцца манэбры ў вялікім маштабе; часта робяцца ваеныя ўрачыстасьці, на якіх нязьменна бываюць фэльд маршалы Гіндэнбург, Людэндорф і Макэнзэн.

— 12-га верасьня ў **Амэрыцы** адбудзецца „дзень абароны“, падчас якога будзе спробавана ваенная арганізацыя Злучаных Штатаў. Пацыфістычныя кругі не згаджаюцца з гэтаю спробаю мобілізацыі, называючы яе мілітарыстычнаю. Нешта падобнае мае адбыцца і ў **Японіі**.

— Парыская газ. „Matin” паведамляе, што гішпанскі дыктатар Прыма-дэ-Рывэра паведаміў францускага гэнэрала Шабрэна аб рашэньні гішпанскага ўраду эвакуаваць узьбярэжжа Рыфэр і ўтрымаць толькі абаронныя пазыцыі ў Татуане і Мэліле.

— Паводлуг вестак, адтрыманых у Вене з **Вашынгтону,** Юз заявіў, што адносіны з Нямеччынай вельмі добрыя; немцы згадзіліся выплаціць 3/4 амэрыканскіх прэтэнсіяў зараз-жа, а рэшту заплацяць у бліжэйшыя месяцы.

— Сягоньня ў **нямецкім** парлямэнце мае быць трэцяе чытаньне і рашучае галасаваньне законаў аб пляне Давіса.

— Павадыр **бэльгійскіх** соцыялістаў Вандэрвэльд прыехаў па запрашэньню сэрбскіх соцыялістаў у Белград, дзе на 27 жніўня назначаны яго даклад аб міжнароднай сытуацыі.

— Як паведамляюць з Лёндану, **Англія** пагражае **С. С. Р. Р.** рэпрэсыйнымі мерамі за шпіёнства над ангельскім паслом у Маскве. Калі С.С.Р.Р. ня дасьць належнага задаваленьня, дык Англія пазбавіць Ракоўскага дыплёматычных прывілеяў, а таксама назначыць паліцэйскага вурадніка, які павінен устанавіць асабістасьць усіх, уваходзячых у памешканьне савецкага прадстаўніцтва ў Лёндане.

— **Эгіпэцкі** ўрад выслаў Англіі адказ на ноту аб **Судане**, протэстуючы проці некаторых фразаў ангельскае ноты, падобнай да пагрозы. Затым эгіпэцкі ўрад не прызнае правоў ангельскага губэрнатара ў Судане на выдаваньне распараджэньняў, якія датычаць эгіпэцкае арміі без папярэдняга паразуменьня з урадам Эгіпту.

— Збунтованыя афіцэры **грэцкага** флёту здаліся. Увесь флёт сабраны ў Салоніках. Салдатам даны одпуск на 40 дзён, а афіцэры паарыштоўваны і будуць адданы пад суд.

# Агляд прэсы.

**„Грознае павялічэньне дарагоўлі“.**

Пад гэткім загалоўкам „Kurjer Poranny“ вось як піша аб сучаснай дарагоўлі:

> Статыстычныя даныя паказваюць, што Польшча зьяўляецца найдаражэйшым краем у сэнсе коштаў жыўнасьці. Гэта выглядае прост непадобным да праўды, што край земляробскі, ўраджайны і багаты пасьбішчамі, мае цэны хлеба і мяса вышэйшыя, чымся краі, якія кормяцца экспортам. Наагул дарагоўля прасьледуе нас усё мацней—і гэта наперарэз правом крызысу, якія павінны былі-б выклікаць націск на цэны.
>
> Да нядаўняга часу думалася, што адбываецца непамерная прапорцыя паміж роўням цэнаў на фабрыкаты і на земляробскія плады. Земляробства зьяўляецца пакрыўджаным, бо тое, што адтрымлівае за свае вытвары, ёсьць непрапарцыянальна малое ў параўнаньні з тым, што мусіць плаціць за прамысловыя вырабы. І праўда, яшчэ ў красавіку паказальнікі разьвіцьця цэнаў пераконвалі, што дрот вырысоўваў падвышку блізка што двухразовую ў параўнаньні з жытам, абутак — ў тры з паловаю разы, а сарочкі ледзь што не ў пяць разоў даражэй выглядалі, як жыта.
>
> . . . Тымчасам жыта паднялося ў цане на 70 проц., а сьвініна на 60 проц., а цэны розных прамысловых вытвараў крыху панізіліся. Дык земляробы гатовы цьвярдзіць, што сапраўды вярнуліся адносіны нармальныя, бо спыніліся сказаныя адхіленьні, якія былі праявамі гаспадарчае патолёгіі.
>
> У сутнасьці ёсьць саўсім іначай. Ня тое было аномаліяй, што цэны земляробскіх прадуктаў незаўсёды дасягалі найбольшых цэнаў на фабрыкаты, але тое, што фабрыкаты расьлі над сілу ўсялякай спажыўчай здольнасьці грамадзянства. І праз гэта крызыс, як выраз разьбежнасьці паміж прадукцыяй і спажыцьцём найстрашней абрысаваўся на полі прамысловасьці. Значыцца, аб цэнах наагул, аб сярэднім роўні коштаў утрыманьня рашае вышыня цэнаў на спажыўныя прадукты. Таксама яна павінна ўплываць на кошты прадукцыі . . .

Небяспечны рост дарагоўлі аўтор тлумачыць і ілюструе гэткімі данымі:

> . . . Не санацыя, ня моцная валюта, ня крызыс навет (бо ён павінен выклікаць паніжэньне цэнаў) прычыняецца да дарагоўлі на спажыўныя прадукты, але ня досіць энэргічная гаспадарчая палітыка барацьбы з дарагоўляй. Інстынкт спэкуляцыі яшчэ не саўсім задушаны. Надмернае пасрэдніцтва, як жывая спэкуляцыя, ўвесь час прычыняецца да блізка што ўсялякіх транзакцыяў. У дэталічным гандлі ад першага мамэнту грайсавала закругляньне цэнаў угару пры перавалютоўваньні марак на злотыя. Але ў найяскравейшых формах выступіў форсіраваны экспорт жыта і мяса, чаму ўрад ня ўмеў проціставіцца. Ня толькі не адваяваў сабе права забароны вывазу ў мамэнты, калі гэта пагражае краёваму спажыцьцю, але й панізіў вывазную аплату за жыта на 1 зл. за 100 кілёгр., альбо на ровень, які мусіць падвышаць экспорт... Дарагоўля прыкра ўжо запанавала на цэлым гаспадарчым палажэньні і наводзіць новыя грамадзкія хмары· Міністэрства скарбу, якое ў свой час гэтакжа ясна прадстаўляла сабе неабходнасьць утрыманьня цэнаў на спажыўныя прадукты на нізкім роўні, павінна толькі вярнуцца да сваё даўнейшае орыентацыі і нанава ўвясьці высокія вывазныя аплаты.
>
> Тады пакладзецца канец грознай небясьпечы і будзе ўхілены адзін з найсільнейшых момэнтаў таго, які завастраецца, крызысу.

---

# Польскія астраномы і Марс.

Кракаўскія газэты пішуць:

„Наш польскі астранамічны пункт у горах, часовая станцыя Нацыянальнага Інстытуту на гары Лысіне пад Мысьленіцамі на вышыні 912 мэтраў над роўнем мора, служыць цяпер месцам, з якога разглядаецца Марс і ў Кракаўскай Обсэрваторыі ўжо адтрыманы рысункі, зробленыя там апошнімі днямі п. Кордылеўскім з Пазнані. На іх дасканальна відаць ласьне вялікую белую пляму ў постаці чапца ў паўднёвым, зьверненым да нас, полюсе Марса. Пляма гэтая не зьяўляецца заўсёдным, нязьменным творам паверхні плянэты, але наадварот, цяпер робіцца меншаю па меры поступаў лета, а пазьней падрасьце ў васеньнюю і зімовую пару на адносным полюсе. Дык гэта ёсьць слой сьнегу альбо шорану, які растапляецца ўлетку і адраджаецца зімою".

---

Пад хваляй халоднай ляжаць байцы, пад цяжарам курганоў, паўсюль на старонцы роднай ёсьць сьлед змаганьня народу майго за долю і шчасьце Бацькаўшчыны мілай.

Дык гуляйце хвалі, гуляйце па абшары сваім, хай мацней сітняг шуміць, каб ніколі не забыўся брат мой бедны, што на гэтых берагох жыў, жыве і будзе жыць беларус...

Шапоча цёмны лес казку сваю. Таёмныя кажа легэнды лесу вада... Ночка пануе... Але хутка прайдзе яна, хутка згінуць зоркі адна за адною, і зноў сонца праменьні зайграюць па хвалях возера, па хвалях сітнягу...

## XIII.

### Паляўнічы Караба.

Караба быў вельмі цікавы чалавек.

Адзеты ўвэ ўсё белае, маленькага росту, сьляпы на адно вока, з маленькай чорнай, ужо сівеўшай, бародкаю, ён сьмяючыся гаманіў:

— Я, ведаеце, сябе не памятаю другім чалавекам. Мне здаецца, што я радзіўся ўжо са стрэльбай і адразу пайшоў у лес і адсюль ужо болей нікуды ня выходзіў. Асьлеп я, ведаеце, ад таго, што заўсёды, як трэба страляць, дык левае вока заплюшчваю, каб зручней было. Ну, вось ад гэтага яно і ня бачыць болей нічога, — засьмяяўся ён.

— Ну, гэта не бяда! Затое ўжо мяне Бог абдарыў — страляю добра! — ўздыхнуўшы сказаў ён.

— Вось добра, што вы надайшлі, а то нудна было-б аднаму праводзіць ночку. Дый я, вось, гаманіць люблю і чуў, што вы запісваеце ўсё, што належыць да нашага старога жыцьця. Ну, дык вось, я вам шмат-шмат чаго цікавага раскажу аб нашым лесе, аб нашай старонцы. Вось, з чаго-б вам пачаць, — задумаўся ён

Тымчасам Ганчар раздуў агонь, які заіграў весела, затрашчаў... іскаркі высока паляцелі ўгару, гаснучы дзесь у галінах дрэваў...

— Ну, вось добра, — пачаў Караба — сядайце, ды слухайце!

Мы прысунуліся да яго і ён пачаў:

## XIV.

### Стары Выжар.

— Месца, ў якім мы цяпер знаходзімся і, нарэшце, ўвесь гэты лес, у абшары ад рэчкі Лані да р. Случы і далей аж да возера «Князь», завецца Старым Выжарам.

Шмат гадоў таму назад гэта быў непраходны лес, ніводная чалавечая нага ня мела магчымасьці папасьці сюды. Толькі дзікі, медзьвядзі, дый ваўкі панавалі ў гэтым лесе. Людзі кажуць, што чалавек, які, адважыўшыся, пайшоў у гэты лес, як пайшоў дык і не вярнуўся болей у сваю вёску... Гэта быў такі гушчар, такі гушчар, што нават сонца ніколі туды ня мела магчымасьці паслаць сваіх праменьняў, а, часамі, калі разгуляецца непагода, заграхоча пярун, дык людзі ў вёсках, якія былі блізка ад гэтага лесу палілі грамніцы і чакалі сьмерці, бо страшэнны грук, трэск у лесе пужаў іх. Але, вось, ішлі гады, людзі рабіліся сьмялейшымі і ўжо некалькі адважных пабывалі, ідучы праз лес, і на беразе Случы, заходзілі й далей, аж да возера Князь. Гэтымі сьмелымі людзьмі, як казалі нашыя дзяды, быў з сваймі сябрамі Юрка Касы, якога нядоля загнала шукаць прытулку ў лесе, — ўздыхнуў Караба.

— Ну, але аб гэтым пасьля раскажу, а цяпер, ось, слухайце далей.

## XV.

### Сьвет.

— Жыў сярод гушчару Выжару нейкі, кажуць людзі, Сьвет. Добра было яму сярод дрэваў, сярод галін. Весяліўся ён, бегаў, гуляў, ганяўся за зайцамі, ваўкамі, дужаўся з медзьвядзямі. Усе любілі Сьвета. Ніхто ня крыўдзіў яго. Зьвяры зрабілі яму добрае, мяккае ложка з сухіх лісьцяў і моху, пільнавалі яго сну. Птушкі пеялі яму песьні, казкі казалі, галіны бярозы пільнавалі яго ад камароў. Добра жылося Сьвету! Усяго яму было даволі. Пчолкі мёдам кармілі, птушкі паілі крынічнай вадою, прыносячы яе ў дзюбах. Ня меў гора Сьвет. Але, вось, раз спаткала яго бяда. Бегаў Сьвет па лесе, ганяўся за птушкамі. Як раптам, вецер разагнуў вяршыны дрэваў і вострае, яркае праменьне разанула яго па вачох...

Ад неспадзеўкі Сьвет застанавіўся.

**Дзяргач.**

*(Працяг будзе).*

# Ад Рэдакцыі і Адміністрацыі.

Падпісчыкі й чытачы, нашае газэты, якія ўнясуць падпісныя грошы **за ўвесь час да канца бягучага году**, адтрымаюць у канцы гэтага году, як БЯСПЛАТНАЕ ПРЫЛАЖЭНЬНЕ да газэты, вялікі

## КАЛЕНДАР-КНІЖКУ

на 1925-ты год. Календар гэты, які цяпер падрыхтоўваецца да выданьня, будзе зьмяшчаць у сабе самы абшырны матар'ял, даючы магчымасьць кожнаму беларускаму селяніну й інтэлігэнту знайсьці для сябе самым найпрасьцейшым шляхам усе патрэбныя спраўкі й парады, як праўнага характару, так асабліва і з галіны сельскае гаспадаркі.

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Як высока была экспэдыцыя на Эвэрэсьце?

Кіраўнік навучнае экспэдыцыі на Эвэрэст, (Гімалайскія горы ў Азіі) Нортон, зьмяшчае ў „Таймсе“ бліжэйшыя весткі аб сьмерці двох сяброў экспэдыцыі, ласьне Мальлёрі і Ірвінса.

Палкоўнік Нортон сьцьвярджае што памёршых бачылі апошнім разам **на вышыні 28.223 мэтраў**, ужо ў сфэры імглы на вяршыне Эвэрэсту.

Памёршых удалося пабачыць, дзякуючы нечаканаму разарваньню хмараў. Гэткай вышыні не ўдалося дасягнуць а ніводнай з папярэдніх экспэдыцыяў.

### Раскопкі ў Эгіпце.

Амэрыканская газэта „New Iork Herald” піша, што эгіпэцкія археолёгі знайшлі недалёка ад магілы Тутанкамэна новыя дамавіны фараонаў. Знойдзеныя дамавіны на 1000 гадоў старэйшыя за дамавіну Тутанкамэна. Банкір Кольсэр з Чыкаго ахвяраваў 100.000 даляраў на далейшыя раскопкі. Эгіпэцкі ўрад у дагаворы з Кольсэрам пакінуў за сабою права ўласнасьці на большую часьць таго, што будзе знойдзена пры раскопках.

## Навуковыя навіны.

### Сірэна для падводных чаек.

Адзін з інжынераў швэдскага флёту сканструіраваў электрычную сірэну дзеля ўжытку падводнымі чайкамі.

Сірэна маець мэтай ухіленьне здарэньняў у момантах апушчаньня ці ўсплываньня падводных чаек.

Гук сірэны чутны пад вадой у далечыню на 1 кілёмэтр.

### Новая выдумка ў авіяцыі.

У Лёндане адбываюцца цяперака спробы з новай выдумкай, якой зьяўляецца самалёт з конструкцыяй, дазваляючай яму ўзьнімацца проста ўгару, што было-б ухіленьнем нявыгоды сучасных апаратаў.

Спробы далі, быццам, добрыя рэзультаты. Аўтор выдумкі, па прозьвішчы Брэннан зьяўляецца конструктарам тарпэднай чайкі, якую у 1889 г. ён прадаў за вялікую ў тыя часы, суму 100.000 фунтаў штэрлінгаў ангельскаму ўраду.

Сваю новую выдумку ён прадасьць ангельскаму міністэрству авіяцыі.

### Кішанёвая гармата.

У фабрыках Шкода ў Чэхіі, пачаліся спробы над сьвежавыдуманай кішанёвай гарматай.

## У С.С.Р.Р.

### Голад адчуваецца.

„Dajly Telegraf” пацьвярджае, што у Савецкай Расеі зноў страшэнны голад, так што каб Расея магла экспартаваць свой хлеб аб гэтым ня можа быць і мовы. Дзеля таго, што вываз хлеба для саветаў ёсьць найгалаўнейшым спосабам для дабываньня грошай, дык такая сытуацыя пагражае колёсальным дэфіцытам для іхняга бюд'жэту.

### Арышты ў Кіеве.

Гэтымі днямі ў Кіеве зроблена шмат арыштаў сярод так званых контр-рэвалюцыянэраў.

Арышты гэтыя былі выклікаены тым, што нейкія невядомыя асобы разьбілі памятнік, пастаўлены Троцкаму ў Кіеве.

### Бандытызм ад безрабоцьця.

Кіеўская прэса пацьвярджае, што ў апошнія часы расьце на Украіне бандытызм. Савецкія газэты прыпісваюць гэтакае зьявішча ўзросту безрабоцьця.

## Сыгналы з Марса.

З Канады (Паўночная Амэрыка) паведамляюць, што іскравая станцыя Пуан-Грэй пачула таямнічыя сыгналы — дзіўныя групы невядомых гукаў, якіх нельга прачытаць, карыстаючыся ўсімі вядомымі шыфравымі ключамі. З Англіі таксама паведамляюць аб адтрыманьні незразумелых сыгналаў. Ангельскія навуковыя сфэры не спадзяюцца адтрымаць спагадных рэзультатаў. Вучоныя цьвярдзяць, што дасюль няма ніякіх конкрэтных даных, паказваючых істнаваньне на Марсе інтэлігэнтных істотаў. Сэр Ольвэр Лёдж і проф. Лёу, не адкідаючы магчымасьці зносін з жыхарамі Марса, калі гэткія ёсьць, зьвяртаюць увагу на тое, што розныя формы жыцьця на абедзьвюх плянэтах зьяўляюцца неперамажнай перашкодаю. Праф. Лёу кажа:

Марс — старэйшая за Зямлю плянэта, а розьніца атмосфэрычных і географічных варункаў павінна была вырабіць тамака інакшы тып жывых істотаў, як у нас. Саўсім магчыма, што марсіяне істнуюць, ня будучы заметнымі для чалавечага вока. Нельга адкідаць і таго, што яны ня могуць жыць сярод нас — а мы займаем адносна да іх гэткае палажэньне, якое займаюць каровы й коні адносна да нас. Але мы павінны старацца зрабіць усё магчымае, каб раскрыць гэтую тайну.

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

— **Награды.** „Mon. Pol.“ паведамляе аб выдачы наградаў вайсковым за зробленую помач ахвярам выбуху ў Варшаўскай цытадэлі 13 кастрычніка 1923 году, а таксама і наградаў для паліцыі за абарону грамадзкае бясьпечнасьці.

— **Грошы для вураднікаў.** У „Dz. Ust.“ № 72 абвешчаны загад рады міністраў аб выдачы камандзіровачных грошай пры пераводах з аднаго месца на другое ўсім дзяржаўным вураднікам.

— **Адмена правіл аб спадчыне.** Увайшоў у моц закон ад 18-га ліпня г. г. аб адмене правіл аб абкладаньні падаткам спадчын і дзяржаўных запісаў.

— **Правы жаўнераў.** Абвешчаны закон ад 18-га ліпня г. г. аб правох і абавязках жаўнераў.

— **Экзамены для старых студэнтаў.** У „Mon. Pol.“ надрукованы загад аб дазволе ўсім студэнтам, паступіўшым у вышэйшыя навуковыя школы да 15 верасьня 1920 г., здаваць усе экзамены па старых правілах да 15-га верасьня 1926 г. Пасьля гэтага часу для ўсіх студэнтаў абавязковы новы парадак і правілы здаваньня экзаменаў.

— **Ад'езд безработных.** У суботу выехала ў Пазнань 28 асоб безработных, адкуль яны выядуць у Францыю 28 жніўня.

— **Курс золата.** Міністрам грашовых справаў абвешчаны курс 1 гр. чыстага золата ў 3 злоты 44,20 грош.

— **Партыйная нецярпімасьць.** Загадчыца Беларускага Прытулку п. Кавэрда звольнена з сваей пасады за тое, што зьвярнулася ў Грамадзянскае Беларускае Сабраньне за дапамогай на прытулак.

— **Лік безработных.** Дзяржаўнае бюро па рэгістрацыі безработных зарэгістравала 1091 безработнага.

— **Шаленства.** 26 жніўня ў Вільню прывезена 12 асоб, пакусаных шалёнымі сабакамі з м. Ракава і сяла Папіўшы, Ландвароўскае вол., для процішаленскае прышчэпкі.

— **Форма для паслоў.** Пасольскі клюб „Вызваленьня“ зрабіў пастанову вырабіць форму для паслоў Сойму і Сэнатараў. Частка з сяброў стаіць за тое, каб усе паслы хадзілі заўсёды ў форме, а частка—процi.

— **Рэмонт вуліц.** Гарадзкі Магістрат пачаў рэмонт размытых навальніцамі Сьняговай і Славянскае вуліц у Вільні. Цікава толькі ці будзе з гэтага рэмонту якая карысьць? Бо кіраўнікі рэмонту мусіць ня маюць ніякае будаўлянае практыкі, нічога ня ведаючы аб гідратэхніцы.

— **Неўраджай на бульбу.** Са ўсіх бакоў Віленшчыны даходзяць чуткі, што частыя дажджы вельмі пашкодзілі ўраджаю на бульбу, які меў быць вельмі добрым.

— **Узрост кошту на сена.** За апошні тыдзень вельмі паднялася цана на сена: сяляне кажуць, што сена будзе каштаваць даражэй за авёс.

**З чароднага тыдня наша газэта пачне выходзіць ТРЫ РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ. Нумары „Грамадзкага Голасу“ маюць зьяўляцца ў сьвет у сераду, пятніцу і нядзелю.**



Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: **Язэп Салавей.** Друкарня „Lux”, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.